*Да канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты»*

# Рэальнасць — як зямля і неба

Яшчэ ў XVIII і XIX стагоддзях усталявалася агульначалавечая норма: у нацыянальных дзяржавах дзяржаўнай мовай з'яўляецца нацыянальная мова карэннага этнасу. Гэта ўспрымаецца і разумеецца, як аб'ектыўная, Богам дадзеная рэальнасць, як існуюць зямля, паветра, неба. Такой праблемы, як у Беларусі, і аднасінаў кіраўніка першай афіцыйнай асобы да мовы карэннага этнасу ў натуральных умовах развіцця народа не існуе. Яна ўзнікае толькі ва ўмовах рэальнага этнацыду, амаральнасці палітыкі: альбо фізічнага знішчэння этнасу (гісторыя і сучасная барацьба народа Чачні), альбо духоўнага і інфармацыйнага этнацыду (гісторыя і сучасны здзек на дзяржаўным узроўні над роднай мовай беларусаў, іх сістэмай выхавання і навучання, культурай у цэлым).

З пабудовай нацыянальных дзяржаў у свеце ўзнікла пытанне заканадаўчага і маральнага ўсталявання адносінаў да этнічных меншасцяў (звярніце ўвагу — этнічных меншасцяў). Грубай, сілавой, прымусовай палітыкай Расія за два стагоддзі ператварыла класічную расійскую нацменшасць у Беларусі ў духоўную большасць, а этнічную большасць беларусаў на Богам выдзеленай тэрыторыі — у штучную нацменшасць. Дзеля выратавання беларускай мовы, культуры аб'ектыўна неабходна як мага хутчэй ліквідаваць гэты этнапанцыр, бо ён сцяў нашы беларускія нацыянальныя грудзі да стадыі смяротнага ўдушэння.

Прыемна адзначыць, што гэта зразумеў дэпутат-камуніст Вярхоўнага Савета Беларусі В.Шчукін, які 23 студзеня ў Вярхоўным Савеце выступіў у абарону беларускай мовы. Зазначым, што зрабіў ён гэта першым сярод дэпутатаў. А дзе ж тыя, якія на выбары ішлі з падтрымкай дэмакратаў?

Сучаснае кіраўніцтва Беларусі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і прыхаваная акупацыя з боку Расіі ігнаруюць агульнапрынятыя міжнародныя ідэі абароны правоў чалавека і ідэю цярпімасці.

Як дасягненне цывілізацыі лічыцца прызнанне і павага асобы на яе права жыць у роднамоўным інфармацыйным асяроддзі. І на гэтае згодна міжнароднага права не дазволена рабіць замах ні індывідуальна, ні калектыўна, ні ў межах дзяржавы. Гэта палажэнне мае сілу і да карэннага этнасу, да этнічных меншасцяў.

І акупанты, і калабаранты павінны быць цярпімымі да беларускага рэнесансу, нашага адраджэння. Цярпімасць азначае: хаця я дзяржаўны чыноўнік і валодаю сілай, каб увесці гэта ці іншае абмежаванне (закрыць беларускія школы, скараціць выданні беларускіх кніжак) альбо забараніць што-небудзь, але па прычыне разумення перадумоў чалавечага існавання і чалавечага жыцця я гэтага не зраблю.

Сімпатыі Прэзідэнта А.Лукашэнкі да палітыкі Адольфа Гітлера і падпалены ім беларускі пантэон культуры ў прамове ў педагагічным універсітэце нагадваюць адносіны да 3 млн. яўрэяў пры нацыянал-сацыялізме ў Германіі.

Правa чалавека на родную мову, права карэннага беларускага этнасу жыць і развівацца ў роднамоўным інфармацыйным асяроддзі ёсць не прывілея, а права, якое перайшло з «натуральнага права» ў міжнароднае.

У адпаведнасці з кадыфікаваным міжнародным правам існуе:

1) натуральнае права чалавека на самавыражэнне на роднай мове як у побытавай, так і літаратурнай форме;

2) натуральнае права на грамадскія інстытуцыйныя тыпавыя ўмовы, каб мець магчымасць развіваць сферу роднай мовы як такой.

Дзяржава, яе кіраўніцтва абавязаны ствараць усе магчымыя ўмовы для рэалізацыі і развіцця гэтага права.

На жаль, натуральнае (Богам дадзенае) права для сучаснага кіраўніцтва Беларусі не з'яўляецца фармальным правам. А гэта вядзе да барацьбы. Рыхтуемая канферэнцыя «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі» ёсць форма пакуль што бяскроўнай барацьбы за духоўнае, а значыць, і фізічнае выжыванне. Пакуль мы займаліся абарончай барацьбой, спадзеючыся на тое, што Прэзідэнт А.Лукашэнка адумаецца і не прывядзе да трагічных вынікаў пастаяннага змагання за натуральнае права выжыць беларускай культуры.

Гарантам і абаронцам натуральнага права беларусаў у іх барацьбе за родную мову з'яўляецца міжнароднае права. Нагадаю, што міжнароднае права з'яўляецца абавязковым правам пры ўсталяванні адносінаў паміж двума ці некалькімі суб'ектамі (паміж беларускім этнасам і дзяржаўным антыбеларускім адукацыйным рэжымам).

ААН стварыла «Камісію па правах чалавека» са штаб-кватэрай у Жэневе. У яе складзе ёсць падкамісія па прадухіленні дыскрымінацыі і па абароне меншасцяў. На сённяшні стан ужыткy беларускай мовы і неабходнасць стварэння беларускамоўнага асяроддзя адпавядае духу і зместу гэтай камісіі. Мы маем сітуацыю: нацыянальнасвядомыя беларусы сталі нацменшасцю ў этнічнай беларускай большасці. На жаль, правы падкамісіі абмежаваныя: у выпадку паступлення скаргаў «не прадстаўляюцца паўнамоцтвы прымаць якія-небудзь меры» (пункт 1) — толькі правядзенне даследаванняў, выпрацоўка рэкамендацый для Эканамічнага Савета, які супрацоўнічае з Генеральнай Асамблеяй ААН.

Камісія па правах чалавека можа «ствараць спецыяльны камітэт для аб'ектыўнага даследавання парушэнняў правоў чалавека». Прапануем нашай канферэнцыі ініцыяваць пастаноўку гэтага пытання.

У артыкуле 27 «Пакта аб правах чалавека» сказана, што народ не павінен пазбаўляцца права «весці ўласнае культурнае жыццё» і «карыстацца сваёй мовай».

Прэзідэнт узначаліў кампанію па прапагандзе (адмоўныя, брыдкія публічныя выказванні ў адносінах да беларускай мовы) і практычнай рэалізацыі (разбурана беларускамоўная сістэма выхавання і аднаго года беларускамоўных выданняў) аднаго года беларускамоўных выданняў) шавіністычнай тэорыі перавагі мовы і культуры Расійскай імперыі над беларускай. А гэта супярэчыць «Міжнароднаму пагадненню аб устараненні любой формы расавай дыскрымінацыі» ад 07.03.66 г. У ёй адхіляецца любая выключнасць, абмежаванне альбо перавага, заснаваныя на нацыянальных каранях альбо этнасе. Адхіляецца таксама ўціск па этнічнай прыналежнасці.

Усе пералічаныя вышэй міжнародныя нормы абароны правоў чалавека падмацоўваюцца (што вельмі важна для нас) «Пагадненнем аб непрымяненні тэрмінаў даўнасці да ваенных злачынцаў і да злачынстваў супраць чалавечнасці» ад 26.11.68 г. Аб гэтым трэба ведаць усім, хто ігнаруе правы беларусаў. Як быў Нюрнбергскі працэс над групай галоўных фашысцкіх ваенных злачынцаў, так можа ўзнікнуць міжнародны грамадскі працэс (суд) над забойцамі мовы і душы беларускага народа.

## Правы чалавека і Еўрапейская супольнасць

У 1950 г. прынята «Канвенцыя па абароне правоў і асноўных свабод чалавека» і створана «Еўрапейская камісія па правах чалавека» з цэнтрам у Страсбургу, утвораны «Еўрапейскі суд па правах чалавека». У пераліку асноўных правоў названай Канвенцыі ў першым раздзеле, арт. 14 забараняецца дыскрымінацыя на аснове этнічнай прыналежнасці і наадварот — дадатна ацэнены абавязак забеспячэння асноўных правоў і свабод.

Вядома, што ў Канстытуцыях (нават СССР) даецца пералік асноўных правоў чалавека, аднак яны не заўсёды выконваюцца. Таму ў Канвенцыі сказана: нават калі асноўныя правы тым ці іншым чынам агавораны законам, абмежаванне з боку закона не павінна заходзіць так далёка, каб асноўны змест якога-небудзь з правоў быў зліквідаваны.

У сістэме выхавання і навучання дзяржава абавязана паважаць правы бацькоў на забеспячэнне выхавання і навучання ў адпаведнасці з іх рэлігійнымі перакананнямі і светапоглядам. Заўважым, што аб мове навучання нацыянальных меншасцяў нічога не гаворыцца. Расійцы ў Беларусі належаць да нацыянальнай меншасці і паводзяць сябе павінны ў поўным суладдзі з міжнародным правам і законамі.

У нацыянальнай дзяржаве арганізацыя выхавання і навучання на дзяржаўнай мове падразумяваецца, як нешта само сабой зразумелае.

У «Заключным Хельсінкскім акце» (1975 г.) запісана, што дзяржавы-ўдзельніцы (Беларусь далучылася) абавязаліся на сваёй тэрыторыі паважаць правы чалавека і абараняць законныя інтарэсы чалавека. Аб'ектыўная неабходнасць і жыццёвая патрэбнасць у захаванні нацыянальнай мовы ёсць законныя інтарэсы беларусаў.

Згодна «Заключнага Хельсінкскага акта» дзяржава Беларусь павінна прыкладваць намаганні, каб усе неабходныя заканадаўчыя, адміністрацыйныя, судовыя і іншыя меры забяспечвалі абарону правоў чалавека і асноўных свабод на сваёй тэрыторыі. Яна павінна ўтрымлівацца ад усялякай дыскрымінацыі людзей і памкненняў у вобласці правоў чалавека і асноўных свабод. У пункце 45 дакладна выражана права на атрыманне, распаўсюджванне і абмен інфармацыі на роднай мове (у беларусаў — беларускай), а ў пункце 69 — права на навучанне ў рамках уласнай культуры (расійская культура для беларусаў ніколі роднай не была, як і культуры ўсіх нашых суседзяў; яна сілай прынесена і стала забойцай беларускай мовы).

Вельмі важным міжнародным дакументам з'яўляецца «Нарада па чалавечых вымярэннях НБСЕ» (29.06.90 г.). У чацвёртай частцы сфармуляваны правы нацменшасцяў і спосабы іх абароны. Павага права на родную мову, культуру разглядаецца як значны чыннік захавання міру. Чалавек мае права свабодна выказваць, захоўваць і развіваць сваю культуру ва ўсіх яе аспектах без якіх-небудзь памкненняў быць асіміляваным супраць сваёй волі.

Згодна пункта 32.1. чалавек мае права свабодна карыстацца роднай мовай як у прыватным парадку, так і ў грамадскіх месцах. У Беларусі дэпутаты Вярхоўнага Савета баяцца карыстацца дзяржаўнай беларускай мовай (выказванне дэпутата А.Дабравольскага). Пункт 32.2. гарантуе: «засноўваць і ўтрымліваць на роднай мове адукацыйныя, культурныя і рэлігійныя ўстановы», а пункт 32.3. — праводзіць рэлігійнае навучанне на роднай мове. Правa распаўсюджваць інфармацыю на роднай мове, абменьвацца ёю і мець доступ да такой інфармацыі (пункт 32.5.).

Дзяржавы-ўдзельніцы будуць (пункт 33) абараняць культурную, моўную і рэлігійную ідэнтычнасць на сваіх тэрыторыях і ствараць умовы для падтрымкі гэтай ідэнтычнасці.

Вельмі важны 34-ы пункт — аб забеспячэнні магчымасці для вывучэння роднай мовы і вывучэння іншых прадметаў на роднай мове.

Прызнаецца права (пункт 40.57.) ушчамлёных асобаў і груп падаваць і падтрымліваць скаргі па прычыне дыскрымінацыйных дзеянняў. Вось наша прававая абарона і абгрунтаванне актуальнасці і правамоцнасці тэмы канферэнцыі.

Нават беглы аналіз дакументаў міжнароднага права паказвае, што сусветная супольнасць надзейна абараняе кожны народ ад асіміляцыі.

ДЭМАКРАТЫЯ ПАТРАБУЕ: да той пары, пакуль дзейнічае Канстытуцыя, немагчымы ніякія заканадаўчыя акты народа, нават калі за іх прагаласуюць усе грамадзяне. Любая акцыя, арганізаваная насуперак альбо наперакор нормам Канстытуцыі, становіцца дзяржаўным канфліктам альбо рэвалюцыяй (праф. К.Шмід, Германія). Нехта думае, што інстытут рэферэндуму з'яўляецца самым лепшым сродкам для прагрэсіўнай палітыкі. Вопыт паказвае, што вынікі ўсенароднага галасавання амаль заўсёды скіраваны на захаванне існаваўшага становішча статус-кво.

Яшчэ Э.Кант пісаў, што свабода дадзена толькі там, дзе існаванне чалавека трымаецца на законе. Таму пры дэмакратыі не павінна быць магчымым, нават пры дапамозе часовай канстытуцыйнай большасці, прынясці законаў, якія супярэчаць Канстытуцыі. Спачатку павінен быць зменены тэкст Канстытуцыі, а затым могуць выдавацца жадаемыя законы.

Дэмакратыя, пры якой людзям закрыты рэальны доступ да нацыянальных каштоўнасцей культуры і адукацыі, ёсць сама супярэчнасць і небяспечнае парушэнне натуральных правоў чалавека.

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар.**

*Актуальна*

# У Капылі паважаюць сваю беларускасць

Тут адразу звяртае на сябе ўвагу сакавітая беларуская гаворка. Ды не толькі на вуліцах, у клубах ці там на рынку — дзякаваць Богу, народ яшчэ ў многіх мясцінах не адцураўся роднай мовы і ахвотна ёю карыстаецца. На Капыльшчыне беларуская мова натуральна, нязмушана пачувае сябе і ў дзяржаўных установах, і ў школе. І нават прыезджыя чыноўныя людзі, атабарыўшыся на Капыльшчыне, вымушаны ўсур'ёз лічыцца з гэтым фактарам. Як слушна заўважыў мясцовы паэт Віктар Новік, чые вершы друкавала «Наша слова», народ проста не зразумеў бы таго «вертыкальшчыка», які б адкрыта паспрабаваў выступаць супраць беларускага слова на радзіме Цішкі Гартнага, Кузьмы Чорнага, Адама Русака, Анатоля Астрэйкі, Алеся Адамовіча і яшчэ немалой чарады слынных на Беларусі дзеячаў літаратуры і культуры. Кажуць, і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, наязджаючы з Менска, з землякамі стараецца размаўляць выключна на беларускай мове, якой добра валодае. У сталіцы дык чамусьці саромеецца ці што, а ў Капылі, кажуць, наадварот. Як у замежных сустрэчах з прадстаўнікамі беларускай дыяспары.

Нічога не змяніў у моўным сэнсе і ў сістэме асветы сумнапамятны рэферэндум, што, дарэчы, дакладна адзначыў раней у час гутаркі з карэспандэнтам намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Менскай вобласці Георгій Ніканавіч.

— Шаноўная Марыя Леанідаўна, як удалося пасля рэферэндуму захаваць ранейшую пазіцыю беларускай мовы ў школах Капыльшчыны, — спытаў карэспандэнт у намесніцы загадчыка аддзела адукацыі Капыльскага райвыканкама М.Л.Сандрозд.

**М.С.:** Беларускую мову ў школах раёна і горада нам дапамог захаваць Закон аб мовах. Да 14 траўня 1995 года ва ўсіх школах з першага па шосты класы, а таксама ва ўсіх дашкольных установах выхаванне і навучанне дзяцей вялося толькі з карыстаннем роднага слова. Так яно і засталося пасля рэферэндуму.

**А.М.:** А не было такога, як, напрыклад, у тым жа Менску, калі многія кіраўнікі школ разам з «рускамоўнымі» бацькамі пачалі наступ на беларускую мову — знішчаліся беларускамоўныя класы і ўтвараліся расійскамоўныя ў беларускіх школах. Маўляў, рэферэндум ім на такое даў дазвол...

**М.С.:** Мы зразумелі рэферэндум як акцыю, што не мае дачынення да Закона аб мовах у сэнсе парушэння гэтага Закона. Так, кіраўнікі дзяржавы захацелі высветліць, якое становішча займаюць расійская і беларуская мовы ў нашым грамадстве. Гэта іхняя права, іхняя кампетэнцыя. Ім пажадана было яшчэ раз падкрэсліць, што абедзве славянскія мовы раўназначныя. Калі ласка, хто супраць гэтага? Але ж Закон аб мовах — асноўны рэгулятар моўных дачыненняў у краіне. І яго мы абавязаны выконваць. Для таго ён і Закон.

**А.М.:** Скажыце, на Капыльшчыне ці знайшоўся хто з бацькоў, які б напісаў заяву аб пераводзе свайго дзіцяці з беларускамоўнага на расійскамоўнае навучанне?

**М.С.:** Афіцыйна не было. Хаця некаторыя бацькі да нас звярталіся з гэтай нагоды за тлумачэннямі. І мы ім даходліва растлумачылі, што калі мы пачнём адкрываць расійскамоўныя класы ўжо зараз, то сутрэнем вялікія цяжкасці: спатрэбіцца падручнікі, новыя праграмы, дадатковая праца настаўнікаў, нервовыя траўмы ў дзяцей. Бацькі нас зразумелі і больш не ўздымалі пытання.

**А.М.:** А настаўнікі? Якая ў іх пазіцыя?

**М.С.:** У нас ва ўсіх адна пазіцыя. Здараецца, у раён прыязджаюць педагогі з расійскамоўным выкладаннем тых або іншых прадметаў. Яны перавучваюцца. Ды і беларускамоўнае асяроддзе ад іх таго вымагае. Між іншым, «навічкі» вельмі хутка авалодваюць беларускай мовай навучання і выхавання дзяцей і ў школах, і ў дзіцячых садках.

**А.М.:** Значыць, можна сказаць, што на Капыльшчыне моўнае асяроддзе ў школах аднароднае?

**М.С.:** На гэта скіраваная не толькі школьная праграма, але і пазакласная праца. У нас безліч гурткоў, дзе вучні спасцігаюць нацыянальную культуру, авалодваюць народнымі рамёствамі. Ёсць выдатная мастацкая самадзейнасць — дзеткі спяваюць беларускія народныя песні, граюць на народных інструментах... Адраджаем мы і народныя святы і абрады. Напрыклад, Гуканне Вясны, Купалле... Бацькам і дзецям гэта ўсё падабаецца. І тут, паверце, ніякай палітыкі няма. Мы жывём на сваёй зямлі, пра гэта ніхто не мае права забывацца.

Калі да сказанага дадаць, што ў сям'і Сандроздаў усе размаўляюць між сабой пабеларуску, а дачка Марыі Леанідаўны пасля заканчэння Нясвіжскага педвучылішча вядзе пачатковыя класы ў школе — вядома ж, на беларускай мове, робіцца зразумелым: настаўніцкая інтэлігенцыя тут хоць трошачку, як мне той-сёй казаў, і саветызаваная, больш «левая», чым «правая», але — нацыянальная, гэта адназначна. З пераемнасцю ад пакалення да пакалення не губляюць капыляне беларускага духу, сваёй нацыянальнай адметнасці. А калі некаторыя мясцовыя камуністы гэта называюць па-ранейшаму ленінскай нацыянальнай палітыкай, то час пакажа, што і да чаго.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

Беларускае Адраджэнне

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Карані змен у лексічным значэнні слова: *аманімія* і *метафарызацыя*

Праз змены ва ўнутранай форме слова ляжыць адзін з асноўных напрамкаў лексічнага развіцця мовы. Увогуле адной з дзівосных уласцівасцей слова А.Патэбня назваў яго здольнасць расці ў змесце і толькі ў сілу гэтага быць рухомым сродкам для разумення людзьмі адзін аднаго. Гэты таленавіты лінгвіст у сваім цэласным вучэнні аб слове зыходзіў перш за ўсё з непадзельнай звязанасці працэсаў у лексічным арганізме.

Узрастанне значэння слова Патэбня бачыць у двух кірунках: 1) ва ўсё большым ускладненні і ўзбагачэнні першаснага значэння, замене ўсёй сутнасці яго адным уяўленнем, далучэнні яго да больш складаных псіха-разумовых з'яў; 2) у звароце да нагляднага значэння слова, імкненні ўзнавіць забытую ўнутраную форму слова. У пэўным сэнсе гэтыя два кірункі развіцця ўнутранай формы слова родначасныя групоўцы слоў, што маюць унутраную форму. Пры ўважлівым назіранні няцяжка заўважыць агульнасць прынцыпу, што адлюстроўвае гэтыя два напрамкі ў развіцці кожнай мовы: па-першае, усё большую яе аналітызацыю і лакалізацыю, па-другое, імкненне да глыбінных народных асноў, зварот да паэтычных, творчых каранёў мовы. Гэтымі напрамкамі ў развіцці мовы ў першую чаргу і абумоўлены адпаведныя змены ва ўнутранай форме слова.

Прычына развіцця сэнсу слова ў вышэйадзначаных кірунках вызначаецца характарам нанізвання значэнняў у структуры адкрытай унутранай формы. У межах гэтай класіфікацыі мэтазгодна вылучыць дзве групы лексем.

У словах першай групы сувязь паміж паасобнымі адценнямі значэнняў у нейкай ступені незалежная, паралельная па схематычнай будове. Адценні значэнняў гэтай групы вылучаюцца большай ступенню сэнсавай аддаленасці, што і прыводзіць да аманімічнага (вядома, у шырокім, не сучасным, сэнсе гэтага слова) кірунку развіцця.

Адценні значэнняў другой групы вызначаюцца значнай залежнасцю і прадвызначаюцца ў адносінах аднаго да другога, паслядоўнасцю нанізвання значэнняў, большай ступенню сэнсавай паядналасці, што ўрэшце і прыводзіць да шматзначнасці. Сувязь паміж адценнямі значэнняў узнікае на аснове пераносу нейкай прыметы, рысы з першаснага значэння на другаснае, часцей за ўсё шляхам метафарызацыі.

Такім чынам, лексема падпадае, паводле А.А.Патэбні, пад першы кірунак развіцця, калі ўнутраная форма яе ўвогуле закрытая ці адкрытая, але па характару нанізвання адценняў значэння адносіцца да аманімічнай (I групы). Калі ж у слове адценні значэнняў нанізваюцца на адзін агульны стрыжань і цесна звязаны паміж сабой сістэмай пераносна-метафарычных адносін, то лексема схільна да развіцця ў другім кірунку.

Паводле Патэбні, усе істотныя змены ў лексемах абумоўлены пэўнымі зрухамі ў іх унутранай форме, знешняя форма непадзельна звязана з унутранай, члeніцца разам з ёю, без яе перастае быць сама сабой, хоць тым не менш адрозніваецца ад яе, валодае пэўнай аўтаномнасцю. Зыходзячы з гэтага, гісторык мовы ў сваіх спробах «адкрыць» унутраную форму сучаснай лексікі праз старажытнае яе функцыянаванне атрымлівае дапаможны ключ для пранікнення ва ўнутраную этымалагічную змястоўнасць слова праз шматлікія змены ў яго знешняй форме.

Менавіта наша гістарычная граматыка, поспехі якой у немалой ступені мы звязваем з намаганнямі сённяшняга пакалення беларускіх лінгвістаў, з галіны тэарэтычна адцягненай ператвараецца (павінна ператварыцца!) у галіну практычную, здольную ўнесці свой навуковы набытак у сучасны мовазнаўчы працэс.

## Да 200-годдзя з дня нараджэння Яна Чачота

Песня «Развітанне Касцюшкі з Юліяй» напісана пад уплывам папулярнай у свой час песні пра каханне юнага Тадэвуша Касцюшкі да шляхцянкі Людзвігі Сасноўскай перад яго ад'ездам у Францыю, а потым — у Амерыку. У песні было толькі зменена імя Людзвігі на Юлію. Свой твор Ян Чачот напісаў перад самай адпраўкай яго ў ссылку. Паэт выказваў, такім чынам, свае ўласныя пачуцці — ён жа таксама развітваўся са сваёй каханай — Засяй Малеўскай.

Верш «Спявай па-над Сольчай, салоўку...» прысвечаны каханай Адама Міцкевіча Марылі Путкамер (з Верашчакаў), гаспадыні аднаго з мужавых маёнткаў Бражэльцы па-над ракой Сольчай (Воранаўскі раён), дзе часта гасцявалі філаматы і філарэты, у тым ліку і Ян Чачот. Верш напісаны на выгнанні на Урале.

**Кастусь ЦВІРКА.**

---

*Ян ЧАЧОТ*

### Спявай па-над Сольчай, салоўку...

*Прысвечана Марылі Верашчака*

Спявай па-над Сольчай,
салоўку,
Хоць я цябе там не пачую.
Увечары прыйдзе ізноўку
Яна ў тваю заціш лясную.
Яна, каго ў думках нам стрэціць
Так люба у дзень гэты весні,
Хоць хвілю здалёк нам
пасвеціць
І хвілю тваёй чыстай песні.
Ты, Сольча, над месячным
зззяннем
Між лозаў, праз зацень
завояў
За далеч, з глухім буркатаннем
Нясі сваё срэбра жывое.
Яна, каго ў думках нам стрэціць
Так люба у час гэты весні,
Хоць хвілю здалёк нам
пасвеціць
І хвілю тваёй, рэчка, песні.
Ці пойдзем калі яшчэ з ёю
Паслухаць пад месяца
зззянне
Салоўку чароўнай парою
І, Сольча, тваё буркатанне?
Мо з часам пачуцці астынуць,
І знікнем мы ўсе, як аблокі,
Усё ж нашы душы не згінуць,
Запомняць нас Сольчы
затокі.

**Пераклад Кастуся Цвіркі.**

*Ян ЧАЧОТ*

### Развітанне Касцюшкі з Юліяй

1
А калі паедзеш, дык бывай,
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш
жыць;
Я цябе няспынна буду сніць.
2
А калі паеду, з Богам будзь,
Пра маё каханне не забудзь.
У якіх краінах мне б ні быць,
Юліяй адзінай буду жыць.
3
Хоць разлучыць, можа, доля
нас,
Любасць пераможа нават час.
Ты ў чужых краінах будзеш
жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.
4
Гэта падарожжа ў дальні край,
Дык навек мне, можа, ад'ю дай!
Мо я не вярнуся з даляў тых,
Дай зары нап'юся з воч тваіх.
5
О мая заранка! Як мне быць?
Рана ў сэрцы, рана. Так баліць!
Зараз ад'язджаю. З Богам будзь.
Любая... Кахаю... Не забудзь...
6
Ты ўжо ад'язджаеш — ах, бывай,
Пра маё каханне ўспамінай!
Ты ў чужых краінах будзеш
жыць,
Я цябе няспынна буду сніць.

*1824 год.*

**Пераклад Кастуся Цвіркі.**

# Тым вечарам гучалі вершы

Ён быў звычайны і незвычайны, вясёлы і крыху сумны, філасофскі і просты вечар паэзіі народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.

Распачаў яго прафесар Вячаслаў Рагойша. Сам паэт адчуваў сябе, здавалася, неяк натуральна, калі чуў тыя словы, што гаварыліся пра яго: незвычайны, выдатны, таленавіты...

Дарэчы, як потым было сказана, Ніл Сымонавіч мае некалькі талентаў. Па-першае, талент вучонага, бо ён прафесар, мае працы па фальклору. Па-другое, ён — адзін з найвыдатнейшых перакладчыкаў мастацкай літаратуры. Па-трэцяе, ён — таленавіты публіцыст. Вось і зусім нядаўна ў газеце «Звязда» быў надрукаваны яго артыкул пра родную мову, культуру. А колькі ж іх, артыкулаў, было да гэтага! І, нарэшце, па-чацвёртае, Ніл Сымонавіч — празаік, не гаворачы, вядома, аб тым, што ён паэт, і не проста, а народны паэт Беларусі. Але ж і гэта яшчэ не ўсё. Ніл Гілевіч асвойвае новыя жанры літаратуры: сатырычная, гумарыстычная замова, амаграфічная рыфма. Ёсць і жанры, у якіх пісьменнік быў першым. Напрыклад, у 1985 годзе з-пад яго пяра выйшаў першы вершаваны раман «Родныя дзеці». Нягледзячы на тое, што многія лічаць «Новую зямлю» творам, напісаным у такім жанры, Ніл Сымонавіч быў усё ж першы, бо сам Я.Колас, як вядома, назваў «Новую зямлю» паэмай.

Але вернемся да вечара.

Ён своеасабліва вылучыўся тым, што паэт знаходзіўся тэт-а-тэт з залай: не было ні артыстаў, ні музыкантаў — толькі паэт і яго прыхільнікі.

Ніл Сымонавіч чытаў вершы, расказваў пра сваю творчасць, адказваў на шматлікія пытанні ў запісках. У зале прысутнічала многа моладзі. Ніл Гілевіч з гонарам адзначыў, што ў літаратуру ідзе моладзь сур'ёзная, таленавітая.

«На вас кладзецца клопат пра лёс нашай зямлі, нашай незалежнай дзяржавы», — сказаў пісьменнік.

Доўга яшчэ гучалі ў той вечар шчырыя словы, вершы, удзячныя апладысменты.

**Ала САПУН.**

# «Пара, маці, жыта жаці...»

Летась у выдавецтве «Універсітэцкае» пабачыла свет выданне: *Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыцыйныя жанры: Мінская вобласць. Мн., 1995.* (Раней у гэтай серыі выйшлі зборнікі, прысвечаныя Берасцейскай і Гомельскай абласцям.) Укладальнік зборніка Васіль Ліцвінка ў прадмове выказвае надзею, што сабраны матэрыял «прынясе радасць усім прыхільнікам беларускага фальклору і будзе карыстацца попытам сярод удзельнікаў фальклорных калектываў, кампазітараў і паэтаў Беларусі і за яе межамі».

Мы, беларусы, маем, як вядома, вельмі багаты фальклор. Менавіта вусная народная творчасць ёсць адным з найвялікшых набыткаў, каштоўнасцяў нашай нацыі. Гаворачы пра збіранне фальклору, можна назваць шмат слаўных імёнаў фальклярыстаў, такіх, як А.Сержпутоўскі, У.Дабравольскі, Я.Карскі... Сёння яны належаць нашай гісторыі. Разглядаемае намі выданне — плён высілкаў цэлай групы студэнтаў, выкладчыкаў, фальклярыстаў. Гэта першае асобнае выданне ўсіх відаў традыцыйнага фальклору цэнтральнай Беларусі ў сучасных запісах. Тут надрукаваныя песні, галашэнні, якія падаюцца з нотамі, ды іншыя абрадавыя і пазаабрадавыя творы. У кнізе чытач знойдзе таксама замовы, прыказкі, прымаўкі, выслоўі, загадкі, казкі, паданні, легенды, быліны, анекдоты... Прыемна, што ў зборніку шмат фотаздымкаў. Трымаючы ў руках зборнік, думаецца: «Якое багацце тут сабрана!» Калі чытаеш яго, дык усведамляеш, што жыве яшчэ дух народны. Тут, у творах, і радасць, і гора, і ўвогуле — гісторыя.

У вуснай народнай творчасці — менталітэт нацыі. Вядома, што нацыю вызначае не толькі мова, а і народны фальклор. Гэтак у прадмове В.Ліцвінка адзначае: «Беларусы — адзіныя, хто захаваў прымеркаванасць паэтычнага календара да гадавога круга і сонца і адпаведных клопатаў земляроба аб ураджаі». І вось яно роднае, беларускае:

*Пара, маці, жыта жаці,*
*Пара сярпы раскладаці.*
*Нема серпа залатога,*
*Нема жанца маладога.*
***Быў бы сярпок залаценькі,***
***Пры нім жанец маладзенькі!***

Трэба нагадаць, што наперадзе выданні беларускага фальклору Гарадзенскай, Віцебскай, Магілёўскай абласцей. Але трэба падумаць і пра выданне беларускай вуснай народнай творчасці, якая бытуе зараз па-за межамі Рэспублікі Беларусь.

**Кніжнік.**

Маладая Беларусь

# боль мой...

«Зноў каторы раз заварушыліся ўсе тыя, каму наша мова заўсёды была як костка ў горле. Для іх беларус, што загаварыў на сваёй мове — «нацыяналіст». Менавіта яны распачалі шумную кампанію прыніжэння, дыскрэдытацыі мовы. І вось сумны вынік — беларускай мове наносіцца ці не смяротны ўдар: абвяшчаецца рэферэндум. Самае дзіўнае тое, што абкрадзены і зганьбаваны народ прычыну сваіх няшчасцяў угледзеў у сваёй жа мове. Гэта была ганьба перад усім светам, якому спачатку здавалася, што мы сапраўды хочам «людзьмі звацца».

Адразу ж было зразумела, што наступ на беларускую мову будзе працягвацца і далей. І мы зараз бачым, як зачыняюцца і так нешматлікія класы і школы. Задыхаюцца беларускі друк, газеты і часопісы, культура. Справа ўжо дайшла да знішчэння падручнікаў. Ідзе самая сапраўдная дыскрымінацыя ўсяго беларускага.

Нам, маладым, усё гэта вельмі баліць. Але мы разумеем: ад нас таксама шмат што залежыць. Я, напрыклад, вельмі рада, што вучуся ў гуманітарным ліцэі. Менавіта ён рыхтуе змену самых актыўных змагароў за роднае слова».

**Валянціна Война.**

*«Так сталася, што ад нараджэння я размаўляла выключна на расійскай мове, бо мае бацькі беларускай не ведалі. У школе родную мову мы вывучалі на даволі невысокім узроўні... Атрымліваецца, што толькі пасля таго, як я прыйшла ў ліцэй, я даведалася, як гучыць сапраўдная беларуская мова. Здавалася б, цяжка палюбіць мову тваёй роднай краіны, калі ты фактычна ўпершыню чуеш яе толькі ў трынаццацігадовым узросце. І ўсё ж без аніякіх складанасцяў я здолела палюбіць яе. Але разам з любоўю прыйшоў і боль...*

*Лёгка зразумець, трапіўшы на Беларусь, у якім стане апынулася родная мова яе насельнікаў. На першы погляд, у рэспубліцы дзяржаўнымі і раўнапраўнымі з'яўляюцца дзве мовы. Наконт іх дзяржаўнасці ніхто не спрачаецца, але раўнапраўнасць так і засталася на паперы...*

*Час ад часу ўзнікае думка: а навошта мне гэта? Вось сядзела б у сваёй школе, не ведала б ніякіх праблем, не балела б сэрца за мову... Ды не. Калі ўсе будуць хавацца адзін за аднаго, то ў хуткім часе мы будзем змушаны пакінуць наш нацыянальны скарб гісторыі. Пакінуць назаўсёды... Каб мне яшчэ раз давялося выбіраць: ісці ў ліцэй ці заставацца ў школе, я, не вагаючыся ні хвіліны, зноў абрала б ліцэй. Чаго б нам гэта не каштавала, але мы адродзім нашу краіну, культуру, мову. Бо навошта жыць народу без уласнага аблічча?»*

**Наталля Багданава.**

«...Зараз ад некаторых палітыкаў часта чуеш, што ўсё ў нас цудоўна: маўляў, пасля ўсім вядомага рэферэндуму людзям далі пэўную свабоду выбару. Выбірай: або ты размаўляеш і думаеш, як усе, або сустракаеш адусюль супраціўленне, непаразуменне, вочы, што глядзяць на цябе, нібы на вар'ята.

Можа, не было б так балюча, каб гэтая праблема не закранала мяне асабіста. Сапраўды, мая мова — мой боль. І стрэс, які чакае паўсюль па-за межамі беларускага асяроддзя ліцэя. Стрэс тады, калі купляеш штосьці ў краме, калі адказваеш на пытанне, як прайсці туды ці сюды, у транспарце, у парку — паўсюль. Здаецца, людзі менш здзіўляліся б, калі б я пачаў размаўляць з імі па-ангельску, а не па-беларуску. Усё гэта ўплывае на псіхіку, якая яшчэ не сфармавалася, у выніку чаго можна чакаць, што заўгодна. Хто ведае, да чаго я прыйду ў рэшце рэшт. Магчыма, зраблюся запужаным усім і ўсімі чалавекам, а можа, буду ненавідзець грамадства за тое, што, як заўсёды, яно забіла яшчэ адну асобу. Зноў будуць паказваць пальцам на «фашыстаў», якія ва ўсім вінаватыя, не разумеючы, што самі знішчаюць год за годам усіх, хто чымсьці вылучыўся з агульнай і паўсюднай бязглуздзіцы жыцця, з дрыгвы, што належыць людзям-маскам. А боль так і застаецца ў душы назаўсёды, пульсуючы, нагадваючы пра бяссільнасць чалавека ў постсавецкім грамадстве...»

**Раман Вярэніч.**

